# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 1 (142) 4 – 10 студзеня 2002 г. Кошт 100 руб.


СЛОВА ДА ЧЫТАЧОЎ

## Працягваюцца жыцьцё і салідарнасьць





Фота Д.Новікава

*Упершыню за няпоўныя 5 гадоў свайго існаваньня "Тыднёвік" перакрочыў праз нябачную рысу паміж старым і новым годам, не спыніўшы графіку выхаду. Нашыя сталыя чытачы памятаюць, што ўсе ранейшыя перапынкі ў выданьні "ТМ" ніколі не былі рэдакцыйным жаданьнем, а заўсёды мелі вонкавы, вымушаны характар. Ніводнага разу ў нашай гісторыі не замаўлялі мы і падпіскі. Справа гэтая ў сучасных варунках ненадзейная, бо жыцьцё выданьня (кожнага!) можа прымусова скончыцца ў любы момант. А таму цяжка гарантаваць падпісныя абавязкі рэдакцыі перад чытачамі. Таму мы існуем паводле схемы: рэдакцыя – газэта – шапік – чытач. Дарэчы, менавіта такая схема найбольш распаўсюджаная ў цывілізаваных краінах. На жаль, у нас большасьць людзей ня звыклая да самастойнага і рэгулярнага набыцьця адной і той жа газэты. Аднак у нас нямала шчырых прыхільнікаў, якім мы вельмі ўдзячныя за вернасьць. Гэтым разам мы просім іх таксама прыцягнуць да чытаньня "Тыднёвіка" сваіх сябраў, калегаў, знаёмых, суседзяў. Звычайная прэтэнзія да нас – нібыта "цяжкая" мова – нават ня вартая для беларусаў абмеркаваньня і спрэчак. Тут ня можа быць саступкі, бо за адступленьнем ад мовы (што добра прасочваецца ў шмат якіх газэтах, на тэлебачаньні і радыё) непазьбежна надыходзіць адступленьне ўвогуле: ад праўды, прынцыповасьці, зьместу, шчырасьці, – ад прафэсіяналізму.*

*Ніякімі іншымі, акрамя як беларускімі, ня могуць быць таксама нашыя незалежнасьць, палітыка, эканоміка, сымбалі, думкі, салідарнасьць, учынкі, адукацыя, культура, падзеі... З шырокага разуменьня і ўсьведамленьня гэтага пачнецца нашае сапраўднае нацыянальнае Адраджэньне. А разуменьне гэтае расьце. Прыемна ўсьведамляць, што й "Тыднёвік" мае ў гэтай справе свае сьціплыя заслугі.*

*Газэта ня зьменіць у новым годзе і сваёй канцэпцыі спалучэньня мясцовай інфармацыі з інфармацыяй нацыянальнага маштабу. Любая мясцовая чыноўная валтузьня, прыніжаная мітусьня многіх з нас, што жывуць па прынцыпе "абы дзень!", ня маюць права засьніць сабой падзеі і факты, ад якіх залежаць лёс краіны, духовы стан нацыі, адносіны зь сьветам, беларуская пэрспэктыва. Разумеючы гэта, мы ўважлівыя да таго, як ставяцца да нашай краіны Эўропа і ЗША, куды вядзе нас (і ня дай Бог, завядзе) нэрвовая і непасьлядоўная міжнародная палітыка ўладнай Адміністрацыі. Нас цікавіць Расея як дэмакратычная суседка й Расея – як небясьпека нашай незалежнасьці. Мы будзем працягваць назіраць за станаўленьнем і разьвіцьцём мясцовых і рэспубліканскіх палітычных структураў, недзяржаўнага грамадзкага сэктару. Ня можа пакінуць нас абыякавымі моладзь, якая, здаецца, усё больш разумее, каго і чаго ёй ня трэба, але пакуль недастаткова ўпэўненая ў тым, у кім і чым яна мае патрэбу. Мы застанемся ўважлівымі да вартасных падзеяў культуры...*

*За некалькі дзён перад надыходам новага году адзін з нашых "дзяржаўных" знаёмцаў, які ніколі раней ня быў западозраны ў спачуваньні нашым ідэям і клопатам, выказаў на адрас "Тыднёвіка" камплімэнт: "Вы ў вобласьці адзіная газэта, дзе можна прачытаць штосьці важнае. Вам бы яшчэ, хлопцы, мову зьмяніць й былі б вы самымі папулярнымі".*

*Мы ведаем, што нават яшчэ год таму гэты чалавек так бы не сказаў, больш таго – не любіў ён нас "прынцыпова", і ня толькі за мову. А вось жа, глядзі... Вось гэта і абавязвае нас заставацца САБОЙ, заставацца "Тыднёвікам", які адны любяць, а іншыя – не. Мы ўпэўненыя, што менавіта тады іншых стане меней, а першых – дадасца.*

***Генадзь СУДНІК***

## Ці варта чакаць?..

***Як мы ўжо паведамлялі, напярэдадні новага году шэраг магілёўскіх палітычных і недзяржаўных грамадзкіх структураў выказалі на адрас мясцовай улады гатовасьць сустрэцца і абмеркаваць стратэгію будучых дачыненьняў на карысьць грамадзянскай стабільнасьці і паразуменьня.***

У ліку ініцыятараў збліжэньня выступілі, у прыватнасьці, абласная арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі, грамадзкія аб'яднаньні "Лекарскі саюз", "Кола сяброў", каталіцкая парахвія касьцёла сьвятога Станіслава, культурніцкі фонд фэстывалю "Магутны Божа".

Першыя крокі да збліжэньня пакінулі ягоных ініцыятараў у расчараваньні. Некалькі сустрэчаў прадстаўнікоў улады і грамадзкасьці, якія адбыліся ў апошнія дні мінулага году, не далі практычнага адказу на ніводнае пытаньне парадку дня. Засталося, напрыклад, невядомым, ці адбудуцца "кольныя сталы" па абмеркаваньні сацыяльных праблемаў, частку якіх могуць узяць на сябе грамадзкія арганізацыі? Ці будзе вернуты фэстывалю "Магутны Божа" ягоны міжнародны аўтарытэт? Ці дапаможа хто распаўсюджваньню нацыянальнай культуры ўзамен агрэсыўнага наступу на моладзь бездуховасьці і дурнога густу пад выглядам "папулярных формаў адпачынку"?..

На сустрэчах уладу прадстаўлялі чыноўнікі сярэдняга рангу з гарадзкога і абласнога выканкамаў, якія, як тое адчувалася, ня мелі ніякіх канкрэтных паўнамоцтваў на заключэньне дамоваў ці пагадненьняў. Было нялёгка дамагчыся нават выказваньня хоць бы іхных уласных думак аб праблемах. (Таму й не называем іхных прозьвішчаў, бо разумеем, што такая служба: "няма загаду – няма думкі").

А загаду – няма, нягледзячы на шырока абвешчаную Лукашэнкам палітыку лібэралізацыі палітычнага і эканамічнага жыцьця, якая нібыта будзе праводзіцца адразу пасьля апошніх выбараў. Ужо й "100 прэзыдэнцкіх дзён" мінулі. Ужо й апазыцыянэры першымі падалі руку...

Яна павісла, аднак, у паветры. Затое чарговым разам пацьвердзілася перакананьне шмат якой колькасьці людзей аб тым, што з гэтай уладай дыпляматычнай мовай размаўляць няма пра што. Гісторыя, як вядома, ведае нямала прыкладаў ня лепшага разьвіцьця падзеяў у краінах, дзе колькасьць ва ўсім расчараваных людзей перакрочвала за крытычную адзнаку.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНІЧАХ



***Акурат перад каталіцкімі Калядамі расфармавалася прафсаюзная арганізацыя ў рэдакцыі раёнкі "Зара над Друцьцю".***

Яна ўваходзіла, як складовая частка, у мясцовы райкам прафсаюза работнікаў культуры. На агульным сходзе сябры прафсаюзу запатрабавалі ад наймальніка вярнуць вылічаныя зь іх заробкаў унёскі. Як высьветлілася, наймальнік цягам году проста не пералічаў гэтыя грошы на прафсаюзны рахунак.

З пэўнай доляй верагоднасьці можна прадказаць далейшы развал прафсаюзных арганізацыяў. Гэтаму садзейнічае, акрамя вядомай пастановы, пасыўнасць прафсаюзных лідэраў. Зрэшты, гэтая зьява стварае добрыя перадумовы для паўстаньня першасных арганізацыяў незалежных прафсаюзаў.

***У прыватным менскім выдавецтве "Пейто" пабачыла сьвет кніга нарысаў аб амаль тысячагадовай гісторыі Галоўчына – адной са старэйшых бялыніцкіх вёсак.***

Дарэчы, "Галоўчына" сталася дзявятай кнігай у адмысловай выдавецкай сэрыі "Ведаць свой край Беларусь". Аўтар кнігі – старшыня рады мясцовага краязнаўчага таварыства Міхась Карпечанка. (Як ужо паведамляў "ТМ", таварыства падало патрэбныя дакумэнты для дзяржаўнай рэгістрацыі).

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**Напярэдадні новага году ўлада ў чарговы раз прадэманстравала, што ўмее клапаціцца пра людзей выключна па-савецку – гэта значыць дэманстратыўна і за чужы кошт. Дзеці з дзіцячых дамоў і бюджэтных садочкаў былі ўшанаваныя падарункамі на бюджэтныя ж грошы ажно на 70 мільёнаў рублёў. А вінная вобласьць людзям па заробках у 10 разоў больш. Такім чынам, у шмат якіх сем'ях сьвята не было. Аднак улада паклапацілася, як звычайна, толькі пра галачку ў графе "клопат пра дзяцей".**

З Бабруйску зьехаў у Расею дыплямант Кнігі рэкордаў Гінэса Уладзімер Савельеў. Ён вядомы як адзін з самых моцных людзей сьвету. Але ў нас пакуль не да фізычнай культуры, вось і паехаў асілак туды, дзе можна зарабіць сваім талентам і перадаць маладым навыкі фізычнага разьвіцьця і трываласьці. Яму прапанавалі ў Маскве ўзначаліць Лігу сілавога спорту, паклалі прыстойны заробак, крэдытавалі кватэру. А ў Бабруйску Уладзімер быў ня больш, чым гарадзкой экзатычнай адметнасьцю. Яшчэ адзін талент, магілёўскі музыка на габоі Павал Кудзянок таксама накіраваўся ў расейскую сталіцу на запрашэньне славутага Сьпівакова. І прычына тая ж: дома рабіць зь ягоным талентам няма чаго.

**Здавалася, што шклоўскія "дажынкі" пабілі ўсе рэкорды капіталаўкладаньняў у збудаваньне "пацёмкінскай вёскі" на сучасны капыл. Гараджане дагэтуль не пазнаюць свайго мястэчка, дзе надзвычай моцна кантрастуюць шыкоўныя новабудоўлі і правінцыйны лад жыцьця. Аднак Шклоў можа паставіць яшчэ адзін рэкорд – па колькасьці ўзнагароджаных за ўзьвядзеньне пасярод савецкай прасторы вонкава эўрапейскага гарадку. Стала вядома, што на Дзяржаўную прэмію вылучаныя архітэктары, якія праектавалі дажынкаўскі Шклоў. Можа, гэта й сапраўды вартыя таго творцы. Аднак жа ўзгадаем, што ніякага адкрытага конкурсу, а таксама грамадзкага абмеркаваньня ды прыняцьця праектаў не было. А значыць, гэтым творцам проста пашанцавала – у адрозьненьне ад іхных калегаў. Вось гэта й кладзецца непрыемным ценем на прызнаньне...**

Паводле кіраўніка абласнога камітэту па прадпрымальніцтве і інвэстыцыях Віктара Красоўскага, прыватны бізнэс Магілёва даў у гарадзкі бюджэт амаль 10% усіх сродкаў, альбо 25,5 мільярда рублёў. Як бачым, прыватнікі добра працуюць нават насуперак афіцыйнай палітыцы ўлады па пастаяннаму іх заціскаsuccessive. Гэта надзвычай прыемна. Засмучае толькі тое, што побач зь непасрэднай працай па разьвіцьці свайго бізнэсу яны абавязаныя дэманстраваць уладзе сваю адданасьць і, зразумела, неўмяшальніцтва ў палітыку. Ёсьць шмат прыкладаў, калі адсутнасьць такой дэманстрацыі становіцца нагодай для праверак, інспэкцыяў і г.д., што ўрэшце многіх прывяло да зьніжэньня дзелавой актыўнасьці, а тое й да банкруцтва.

**Вось дакладная цытата з афіцыйнага паведамленьня пра апошнюю сэсію абласнога савету (напрыканцы мінулага году на ёй абмяркоўвалі праект бюджэту вобласьці на 2002 год): "З аднаго боку, узмацняецца сацыяльная накіраванасьць бюджэту. Гэта адлюстроўваецца ў росьце заработнай платы, пэнсіяў, дапамогі, у падвышэньні пакупніцкай здольнасьці насельніцтва. З другога боку, фінансовы стан гаспадарчых суб'ектаў усё ускладняецца. Больш за 45% іх стратныя, а ў аграпрамысловым комплексе стратнасьць характэрная для 72% гаспадарак"... Што тут скажаш? Жыць будзем лепш, але дрэнна. Жыць будзем дрэнна, але – лепш. Я, напрыклад, ніколі не зразумею чыноўнага стылёвага майстэрства.**

Тая ж сэсія дэпутатаў пахвалялася тым, што сёлета будзе шырока прымяняцца прынцып платнасьці шмат якіх мэдычных паслугаў. Ясна, што самая па сабе гэтая прагрэсыўная форма арганізацыі аховы здароўя ні ў чым невінаватая й яе трэба вітаць. Але ж увядзеньне гэтай ды іншых падобных сучасных мадэляў грамадзкага існаваньня дарэчы там, дзе ёсьць комплекны падыход да рынкавага рэфармаваньня ўсяго жыцьця. Вырасьлі заробкі, зьменшыліся падаткі – калі ласка, падвышай цэны на камунальныя ці якія іншыя паслугі. Але ж у нас на тую комплекснасьць не глядзяць. Няма ў дзяржавы сродкаў на ўтрыманьне мэдыцыны – вось у людзей іх і возьмем. А людзі дзе возьмуць пры нашай эканоміцы? А гэта іхны клопат, захочуць быць здаровымі – знойдуць.

***Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

# Дыплямату належыць быць аптымістам

***Амбасадар АБСЭ Ганс-Георг Вік даў інтэрвію аўстрыйскай газэце "Die Presse". Артыкул называецца "Хай Лукашэнку мучыць сумленьне".***

Як адзначае газэта, ад адносінаў сп.Віка з Лукашэнкам цяжка было чакаць нейкага плёну – паміж словамі й дзеяньнямі афіцыйнага Менску заўсёды назіралася вялікае разыходжаньне. Так, у часе саміту ў Стамбуле ў 1999 годзе Лукашэнка публічна гарантаваў, што прыкладзе ўсе намаганьні дзеля правядзеньня канструктыўнага дыялёгу з апазыцыяй. Але потым ён забыўся на гучныя абяцаньні. У Беларусі арыштоўваліся і ўвогуле зьнікалі апазыцыйныя палітыкі. Спробы сп.Віка арганізаваць дыялёг паміж уладамі і апазыцыяй нагадвалі біцьцё галавой аб сьцяну.

Нягледзячы на рэальнасьць, Г-Г.Вік з аптымізмам глядзіць на будучыню Беларусі. Прагрэс, паводле сп.Віка, палягае на тым, што апошнім часам у Беларусі ўдалося стварыць сапраўдны падмурак для грамадзянскай супольнасьці: апазыцыя мае патэнцыял, і нават можа сфармаваць дэмакратычны ўрад. Дарэчы, колькасьць скрадзеных Лукашэнкам галасоў у свайго канкурэнта Ганчарыка, як лічыць амбасадар Вік, – у межах 15-30%. А гэта, паводле яго, ёсьць ні што іншае, як знак для рэфармацыйнага працэсу. Бо лічбамі можна маніпуляваць, аднак падтрымку насельніцтва, асабліва маладога, Лукашэнка ўжо згубіў.

"Выбары паказалі, што грамадзтва ў Беларусі расколатае, і мы не павінны губляць тую палову, якая хоча дэмакратыі", – заявіў напрыканцы інтэрвію былы кіраўнік місіі АБСЭ ў Беларусі.

***Алена ПАНКРАТАВА***

# Час раставіў па месцах

***Два высокапастаўленыя камуністычныя палітыкі стануць перад судом за сваю дзейнасьць падчас акупацыі Чэхаславаччыны войскамі Варшаўскай дамовы ў 1968 годзе.***

Мілоўш Якеш і Ёзэф Лэнарт, паводле Ўстановы дакумэнтацыі й расьсьледаваньня злачынстваў камунізму (UDV), здрадзілі Радзіме. Гэтая здрада праявілася ў тым, што ў жніўні 1968г. яны вялі ў Маскве перамовы пра стварэньне "рабоча-сялянскай улады", якая мусіла легалізаваць уварваньне савецкіх акупацыйных войскаў у Чэхаславаччыну.

Калі суд прызнае Якеша й Лэнарта вінаватымі, то ім будзе пагражаць ад 12 да 15 год турмы, а магчыма й пажыцьцёвае зьняволеньне.

***Ільля ГЛЫБОЎСКІ***

***P.S. Гэтымі днямі ў Чэхіі адзначаецца 25-годзьдзе з дня ўзьнікненьня Праскай "Хартыі-77". Ля вытокаў гэтай дэмакратычнай і праваабарончай арганізацыі, ці ня першай у эўрапейскіх краінах так званай "народнай дэмакратыі", стаялі чэскія дысыдэнты – вучоныя, навукоўцы, літаратары, дзеячы культуры. Працуючы практычна ў падпольлі, пад пільным наглядам чэскага КГБ і паліцыі, яны здолелі самаахвярна дамагчыся прагрэсыўных пераменаў у сьвядомасьці суграмадзянаў на карысьць незалежнасьці краіны, дзе сталася магчымым усталяваць дэмакратыю і рынкавую эканоміку.***

***Досьвед "Хартыі-77", на жаль, слаба скарыстоўваецца беларускім праваабарончым рухам, які засяроджвае сваю ўвагу выключна на правах чалавека, якія, аднак, ня могуць быць ажыцьцёўленыя ў краіне, дзе няма нацыянальнай еднасьці. Праца, нават з высакароднымі мэтамі, па-за межамі гэтай праблемы аб'ектыўна вядзе да імітаваньня барацьбы за вольную і дэмакратычную Беларусь, зводзячы дзейнасьць менскай "Хартыі" да самапапулярызацыі выключна ў замежных амбасадах і эўрапейскіх дэмакратычных арганізацыях. Нездарма маладыя абаронцы Курапатаў адмовіліся прыняць прэмію беларускай "Хартыі", бо лічаць гэтую арганізацыю даволі прыстасаванскай.***

# Не па сваёй віне...

***Польскі часопіс "Polityka" зьмясьціў рэйтынг амбасадаў Польшчы за мяжой. Польская амбасада ў Менску аказалася ў канцы ліста – сярод краінаў "трэцяга сьвету".***

Амбасады ацэньваліся паводле пяцізоркавай сыстэмы. Найвышэйшую адзнаку – пяць зорак – атрымалі польскія амбасады ў Вашынгтане, Брусэлі, Бэрліне, Парыжы і Лёндане. На пункт ніжэй апынуліся дыпляматычныя прадстаўніцтвы ў Маскве і Рыме. Польская амбасада ў Менску атрымала найніжэйшую адзнаку – адну зорку, і аказалася побач з дыпляматычнымі прадстаўніцтвамі ў Луандзе, Алжыры, Улан-Батары і Ханоі.

Як патлумачыў аглядальнік аўтарытэтнага польскага часопісу "Wprost" Янка Чурыловіч, афіцыйны Менск на палітычнай арэне значыць няшмат, бо "як Масква скажа, так Менск і зробіць". Таксама, з гаспадарчага пункту гледжаньня ў Беларусі няма замежных інвэстыцыяў ці іх вельмі мала, і адпаведных сувязяў Менск-Варшава няшмат, таму польскай амбасадзе на Беларусі ня надта ёсьць чым займацца.

Паводле меркаваньняў некаторых іншых польскіх экспэртаў, збліжэньне Расеі з Захадам, якое актывізавалася пасьля верасьнёўскіх тэрарыстычных замахаў у ЗША, робіць Беларусь яшчэ менш значным чыньнікам на міжнароднай арэне. Пакуль Менск ня стане незалежным суб'ектам палітыкі, геапалітычныя пытаньні ў ім напэўна ня будуць вырашацца. Да тае пары ў вачах замежных дыпляматаў прэстыж дыпляматычных прадстаўніцтваў іхных краінаў у Менску застанецца нязначным.

***Аляксей ДЗІКАВІЦКІ***

## ШТО НА ТЫДНІ... У КРЫЧАВЕ І ШКЛОВЕ



***Крычаўскі экалягічны цэнтар дзяцей і юнацтва яшчэ ўлетку прадаў вытворчаму аб'яднаньню жыльлёва-камунальнай гаспадаркі горада расаду кветак на агульную суму 84 тысячы рублёў. Аднак наіўныя дзеткі-эколягі ўсё яшчэ чакаюць заробленых грошай.***

На базе цэнтру функцыянуюць 55 дзіцячых аб'яднаньняў розных накірункаў. Школьнікі вырошчваюць акварыюмных рыбаў, экзатычныя кветкі, вырабляюць фігуркі з саломы, займаюцца дзявочым іміджам... Акрамя таго, цэнтар зрэдку рэалізуе самастойна вырашчаную расаду гародніны і кветак, якую ахвотна набываюць навакольныя жыхары й некаторыя прадпрыемствы.

***Днямі з памяшканьня раённага спажывецкага таварыства судовыя выканаўцы канфіскавалі тэлефон і факс.***

На сёньня гэтая некалі прыбытковая і даволі заможная структура, што займаецца закупачна-гандлёвымі апэрацыямі на сяле, знаходзіцца ў вельмі непрывабным стане. Яе запазычанасьць цэламу шэрагу арганізацыяў раёна складае прыкладна 300 млн. рублёў.

Амаль штомесяц таварыства прайграе судовыя працэсы паводле зыскаў шматлікіх крэдытораў. Цяпер праўленьне спрабуе выправіць сытуацыю, скарачаючы штаты й закрываючы непрыбытковыя крамы ў малых местах.

***Андрэй КУЗЬМІН***



***Навагоднія сьвяты далі магчымасьць "законна" не працаваць прадпрыемствам, якія ў будзёныя дні вымушаныя прыдумляць адмысловыя прычыны для зьмяншэньня вытворчых праграмаў.***

Практычна ня мае салідных аб'ектаў мясцовы ПМК-283. Стаіць мэблевая фабрыка. Толькі крыху больш за палову тыдня працуе папяровая фабрыка "Спартак". Спыніўся камбінат будаўнічых матэрыялаў...

***Больш за іншых занятая раённая пракуратура. Яна ўзбудзіла і вядзе ажно тры крымінальныя справы з палітычным падтэкстам.***

З восені расьсьледуецца справа супраць раённага каардынатара незалежнага назіраньня на выбарах прэзыдэнта сп.Мяцеліцы. Напрыканцы мінулага году была нечакана ўзноўленая справа супраць мясцовых "зубраў" за праведзеную імі агітацыйную акцыю яшчэ ўлетку. Крымінальныя непрыемнасьці пагражаюць вольнаму журналісту А.Шчарбаку.

Пры гэтым сытуацыя з "традыцыйнай" злачыннасьцю ў раёне горшае: людзі крадуць дзяржаўнае і прыватнае, хуліганяць, уганяюць машыны...

***Аляксандар ШЧАРБАК***

## КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Бязь веры змаганьня не бывае

**Будаўнік Ігар Шылягаў з Магілёву сам выявіў жаданьне даць інтэрвію недзяржаўным СМІ. Першымі яго распаўсюдзіла радыё "Свабода".**

**Раней ён нічога ня ведаў пра Курапаты. "Ніхто нам нічога не тлумачыў, – сказаў ён. – Прыехалі валіць лес, і тады толькі даведаліся, калі пачалося гэтае змаганьне супраць пашырэньня кальцавой сталічнай дарогі. У тым, што тут адбываецца, вышэйшае кіраўніцтва вінаватае. А людзі напачатку вінавацілі толькі нас, рабочых...".**

**Апошнім часам Ігар Шылягаў шмат дапамагае абаронцам Курапатаў. Перад Новым годам ён прывёз сюды пяску, каб можна было падсыпаць пляцоўку пад капліцу.**

**"Я жадаю абаронцам Курапатаў перамогі ў іхнай справе. Правільна робяць, што дамагаюцца. Нават у нас у Магілёве ёсьць пахаваньні, дзе расстрэльвалі. Там Крыж стаіць. А тут у самой сталіцы, і ніхто нічога ня ведае пра растрэлы – гэта ўжо задужа", – сказаў журналістам малады магілёўскі будаўнік.**

***Ганна СОУСЬ***

**P.S. Блізу 15 чалавек правялі ў Курапатах Навагоднюю ноч, падчас якой частаваліся прысмакамі, якія да лягеру абаронцаў прынесьлі многія менчукі, каб падтрымаць высакародны чын. Людзі ж распавялі хлопцам пра тое, што нібыта ўсё ж прынятае рашэньне аб збудаваньні другога рукава кальцавой дарогі па-за Курапатамі. Рашэньне прынятае патаемна й не абвешчанае грамадзкасьці. Абаронцы лічаць, што такое з боку ўлады цалкам магчыма, каб не прызнаваць іхную перамогу. Аднак хлопцам патрэбная ня слава, а ўратаваньне сьвятога месца – горкага сымбалю пакутнай беларускай гісторыі. Усьведамленьне яе нашчадкамі, на іхную думку, ёсьць лепшай гарантыяй дэмакратычнага і шчасьлівага разьвіцьця краіны, якое можа пачацца ўжо ў гэтым годзе.**

---

## ПАЛІТЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ "СВАБОДЫ": КЛІЧАЎ

# ...А самых дрэнных да нас прысылаюць

***Зь леташняга жніўня сьціплы і ціхі, акружаны "партызанскімі" лясамі Клічаў раптам стаўся даволі вядомым. Прыемна ўсьведамляць, што "Тыднёвік", відаць, першым спрычыніўся да папулярнасьці раёна, калі надрукаваў адмысловую выбарчую старонку з Клічава. І вось ужо карэспандэнт "Свабоды" цікавіцца тым, як і чым жывуць тут людзі, у тым ліку тыя, пра каго пісаў пад прэзыдэнцкія выбары "Тыднёвік". Спадзяемся, што чытачам будзе цікава прачытаць матэрыял, які стаўся своеасаблівым працягам тагачаснай публікацыі...***

Самае людное месца ў Клічаве – кірмаш. Тутэйшае жыхарства ён вабіць ня толькі гандлёвымі шэрагамі. Кірмаш стаўся месцам, куды сьцякаюцца раённыя навіны. Тут можна пачуць пра ўсё, чым жыве сёньня Клічаў: "Не, пакуль нам горш жыць яшчэ ня стала". "Абы толькі вайны не было". "Адно кепска, што замярзаем. Ня топяць".

– А ці ёсьць у вас гарачая вада? – запытаўся я ў прысутных людзей. У адказ пачуў наступнае: – "Няма". "У нас ніколі вады не было. Мы самі яе грэем". "Першы год яшчэ неяк тапілі, а вось ужо гадоў дзесяць – не". "І прэзыдэнт, што ён зробіць? Хіба ён за ўсімі прасочыць? Ён вось тут навёў парадак, адвярнуўся, а шкоднікі робяць тое ж самае".

Калі верыць афіцыйнай статыстыцы, то Клічаў вызначаецца выключнай адданасьцю Лукашэнку. На нядаўніх выбарах за ягоны палітычны курс прагаласавала 86% мясцовых жыхароў. Гэтая лічба значна пераўзыходзіць сярэднюю па краіне. Між тым, шмат хто ў раёне не пагаджаецца з такой статыстыкай. Мяркуюць, шта насамрэч яна нібыта стала вынікам маніпуляцыяў раённай выбарчай камісіі. Вось што распавяла жыхарка вёскі Арэхаўка Сьвятлана Фрыгіна, якая падчас выбараў брала ўдзел у назіраньні:

– Я не глыбокі палітык, аднак заўважыла вось што. Асноўная маса людзей выбірала, так бы мовіць, "на даму". І тое, што трэба было зрабіць, было зроблена "на даму"... Яны садзяцца ў аўтобус альбо машыну і едуць. У мяне вось было па Несеце 375 чалавек, якія галасавалі на месцы, 50 – папярэдне, і на даму – 300. А ў Арэхаўцы яшчэ болей. У іх папярэдне галасавала 215, а на даму – каля 350. Акурат палова атрымліваецца. У мяне ў суседняй вёсцы жыве кума, дык яна вось што распавядала: "Прыехалі да маіх бацькоў. Са скрыняй. І кажуць: "Галасуйце вось за гэтага". І тая бабулька падпісала, нібыта гэтак і трэба было.

З такім меркаваньнем не пагаджаюцца арганізатары выбараў. Старшынём раённай выбарчай камісіі ў Клічаве быў Канстанцін Харчанка, намесьнік старшыні райвыканкаму. Пройгрыш на выбарах Уладзімера Ганчарыка ён лічыць заканамерным:

– Дарэчы, за Ганчарыка ў раёне не зьбіралі подпісаў. І ніхто не забараняў. Зьбіралі подпісы за Зянона Станіслававіча, зьбіралі подпісы за Гайдукевіча, за Лукашэнку, за Домаша. За Ганчарыка ў раёне ніхто не зьбіраў. Вось і вынік.

Ува ўсім раёне за Ганчарыка прагаласавала, зноў жа паводле афіцыйнай статыстыкі, усяго каля 7% выбарцаў. Меркаваньняў на гэты конт шмат. Тая ж С.Фрыгіна, апроч фальсыфікацыі вынікаў, бачыць наступную прычыну нізкага рэйтынгу адзінага кандыдата ад апазыцыі:

– Я зьбірала галасы за Домаша. Ну чаму ж ён, гад, адмовіўся? І вельмі многія людзі пакрыўдзіліся, што ён зьняў сваю кандыдатуру. Што тычыцца таго, на чыю карысьць ён гэта зрабіў, дык многія людзі адкрыта казалі: "Чаго гэты пэнсіянэр лезе? Што ён можа?" Меркавалася, што прафсаюзы за ім пойдуць, аднак прафсаюзы за ім не пайшлі.

А вось што распавёў наконт выбараў прадстаўнік клічаўскай філіі Беларускага Хельсінскага Камітэту Анатоль Белазерцаў:

– Прыйшоў да мяне сябра Сілін Леанід – шафёр санэпідстанцыі. Была 21-я гадзіна. Я кажу: у мяне ёсьць газэты, давай пройдзем, каб мне было весялей. Хай людзі газэты пачытаюць. А ў гэты час маладым лейтэнантам, што прыйшлі са школы, далі ўказаньне назіраць за маім домам. І мы выйшлі, у сумку паклалі газэты. Ідзём па Савецкай, у бок гораду. Выйшлі на Чырвонаармейскую вуліцу – сьвятло, ліхтары. І прылятаюць тры машыны – адзінаццаць чалавек на чале зь дзяжурным маёрам міліцыі Матузавым. Яны акружылі й стаяць. Я кажу: "Госпадзі, якія выдаткі робяцца, знайшлі злачынцаў!..

Між тым, пасьля выбараў пераслед мясцовых апанэнтаў Лукашэнкі, на іхную думку, ня скончыўся. Ніна Пагірская – камэндантка інтэрнату №2 Клічаўскага аграрна-тэхнічнага каледжу. У часе выбарчай кампаніі яна зьбірала подпісы за вылучэньне кандыдатам Сямёна Домаша. Нядаўна кіраўнітва каледжу зьменшыла ёй заробак, скасаваўшы грашовыя выплаты за выхаваньне студэнтаў.

– Завуч наша – намесьніца дырэктара па выхаваўчай працы Кацярына Сьцяпанаўна Харлап, – распавядае Н.Пагірская. – Яна ярая камуністка, якой прэзыдэнт асабіста даслаў падзяку. Вы мяне выбачайце, але за што яна яе атрымала? За тое, што ў мяне ў інтэрнаце я выхавала гэтак. Дык чыя гэта праца ? Нажыла за нашымі плячыма сабе славу. За тое, што мы дзяцей выхавалі, прэзыдэнт даслаў ня нам агульную падзяку калектыўную, а ёй. Дык як гэта зразумець?! Яна дакалупілівалася, дакалуплівалася патрошкі. А пасьля ўжо ня мне яна сказала, а нашым работнікам: "Як гэта так яна пайшла за Домаша подпісы зьбіраць?!".

Яшчэ большы розгалас у Клічаве атрымала справа Людмілы Гушчы. Спадарыня Гушча падчас выбараў каардынавала ў раёне дзейнасьць прадстаўнікоў апазыцыі. Яна працавала выкладчыцай замежнай мовы ў тым жа самым аграрна-тэхнічным каледжы. Аднак літаральна на вачох студэнтаў кіраўніцтва навучальнай установы яе звольніла. Вось што паведаміла Л.Гушча:

– Я не чакала такога бруду. Ён прынёс загад на маё звальненьне. Загад ад 5 верасьня – звальненьне за прагулы. Адзін раз я нібыта ня выйшла, калі быў пэдсавет. Мяне ніколі ніхто не запрашаў на пэдсавет, мне плацілі толькі за адпрацаваныя гадзіны. І яшчэ нібыта варта было прадаставіць пляны, але я іх не прадаставіла.

Як лічыць лідэрка мясцовай апазыцыі, яе звольнілі паводле ўказаньняў раённага начальства. Намесьнік старшыні райвыканкаму Харчанка так тлумачыць нечаканы паварот у лёсе Людмілы Гушчы:

– Гэта вельмі цікавы чалавек для псыхіятра. Яна зьмяніла невядома колькі месцаў працы, яе не звальнялі, яна заўсёды піша "на ўласнае жаданьне". Яна працавала настаўніцай у Бёрдаўскай школе, а чаму зараз не працуе? Кепска – 5 кілямэтраў ад гораду, не падабаецца. Дзеці, як яна казала, дурныя, тупіцы і г.д. Перавялі ў гарадзкую школу, выкладала замежную мову – маральна стамілася, ня можа працаваць. Дык хто ёй перашкаджае дзе працаваць?!

Раённае начальства спрабуе пераканаць насельніцтва Клічава, што Людміла Гушча ня мае пэдагагічных здольнасьцяў. У былой выкладчыцы такая прапаганда выклікае пратэст:

– Гэта – намова, ім жа трэба нешта казаць. Для гэтага насамрэч варта, каб адбыўся нейкі інцыдэнт, каб было зафіксавана. Першая мая школа была Бёрдаўская. Я там чатыры гады адпрацавала. І калі мяне перавялі ў другую школу (а гэта было не паніжэньне, а павышэньне), дырэктар некалькі разоў падыходзіў і казаў, што навошта я ад яго зьбегла. Ён хваляваўся за мяне. І дзеці ведалі, што я даю магчымасьць рэалізавацца. Так, я прынцыповы чалавек, але я ніколі дзяцей не зьняважыла. Я з патомнай сям'і пэдагогаў – у мяне маці пэдагог, у мяне дзьве сястры маці – пэдагогі. І так казаць пра мяне – гэта браць грэх на душу.

Зараз у раёне бракуе выкладчыкаў замежнай мовы. Аднак, як паведаміла мне загадчыца раённага аддзелу адукацыі Зоя Шыманская, Людмілу Гушчу ў навучальныя ўстановы на працу яны больш ня возьмуць. Маўляў, каб не пашкодзіць дзецям. Між тым, што дзіўна: ані самі дзеці, ані іхныя бацькі, паводле інфармацыі той жа спадарыні Шыманскай, ані разу ня скардзіліся на настаўніцу.

На думку Ніны Пагірскай, пазбаўленьне працы Людмілы Гушчы ня мае нічога агульнага з пэдагогікай:

– Хто дзяцей тых пытаўся пра тое, ці ўмее яна працаваць? Даступна яна тлумачыць ці не? Хіба яны прысутнічалі? Па-мойму так: калі чалавек ня ўмее працаваць, мусіць быць нейкі дакумэнт. Адзін адкрыты ўрок правесьці, другі... А потым указаць чалавеку, што сёньня ў цябе такая вось недапрацоўка. Я не выкладчыца, але гэтак на маю галаву. А то сёньня на яе сказалі, што яна ня ўмее працаваць, заўтра гэтак могуць сказаць на мяне.

Жыхары Клічава лічаць, што пасьля выбараў у горадзе моцна павялічылася пагроза рэпрэсіяў. Захаваньне Лукашэнкам улады на новы прэзыдэнцкі тэрмін разьвязала рукі мясцоваму начальству. Звальненьне Людмілы Гушчы, паводле ейных словаў, мае на мэце запалохаць астатніх іншадумцаў. У сваю чаргу, намесьнік старшыні райвыканкаму Харчанка лічыць такія абвінавачваньні безпадстаўнымі:

– І пры чым тут палітычны пераслед?! Мы хіба яе з камісіі праганялі? Ніколі. Яна брала ўдзел у фармаваньні ўчастковых камісіяў. А што яна не зусім нармалёва тут сябе паводзіць, дык гэта так.

Для былой выкладчыцы Л.Гушчы насталі зараз у Клічаве цяжкія дні. З прычыны вымушанага безпрацоўя маладая жанчына фактычна засталася без кавалка хлеба. Зрэшты, пераслед з боку ўладаў пакуль што не дасягнуў мэты. Ва ўсялякім разе, павініцца за свае палітычныя погляды спадарыня Гушча пакуль не зьбіраецца:

– Я тут нарадзілася. Гэта мая радзіма, а Харчанка прыехаў сюды. Тут дастаткова аднаму чалавеку загадаць кіраўнікам прадпрыемстваў, і яны будуць нападаць на чалавека. Пачынаюць плесьці вакол мяне плёткі. Зараз яны імкнуцца пасварыць нас, каманду гэтую. А за мной зараз моцная каманда.

Пляны клічаўскіх уладаў выкарчаваць у раёне іншадумства сутыкаюцца зь цяжкасьцямі яшчэ аднаго кшталту. А менавіта: пасьля выбараў тут прыкметна пагоршылася сацыяльна-эканамічнае становішча. Гаворыць актывістка мясцовага жаночага руху Людміла Яскевіч:

– Перад выбарамі ўсім бюджэтнікам выдалі і авансы, і заробкі. А зараз усе сядзяць на нулі. У раённым бюджэце грошай няма, і нікому грошы не выплачваюць. Многія бюджэтнікі зараз незадаволеныя. Вось быў Дзень культпрасьветработніка, дык вось аніякай дапамогі да сьвята, каб людзі маглі яго адзначыць, не было. Таксама ў нядзелю быў Дзень маці, але ў бюджэтных арганізацыях нідзе не было ніякай дапамогі жанчынам-маці. Хаця наш прэзыдэнт і кажа пра падтрымку дзяцінства і мацярынства, але нідзе ня бачна гэтай дапамогі.

У мясцовых жа "вэртыкальшчыкаў" сацыяльна-эканамічны стан раёну пакуль што не выклікае трывогі. Клічаў жыве на датацыях, і таму яны спадзяюцца на фінансовую дапамогу з рэспубліканскага бюджэту. Пэўны аптымізм чыноўнікаў, мякка кажучы, супярэчыць апошнім эканамічным тэндэнцыям у раёне. Напрыклад, ён выклікае зьдзіўленьне ў мясцовых настаўнікаў. Рэч у тым, што клічаўскія пэдагогі пасьля выбараў яшчэ не атрымлівалі заробкаў. Складанае становішча з выплатай заробкаў і ў іншых працоўных калектывах. Напрыклад, паводле інфармацыі Людмілы Яскевіч, занепадае мясцовае прадпрыемства жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. На пытаньне, ці ёсьць у горадзе ўвогуле даходныя прадпрыемствы, спн.Яскевіч адказвае наступным чынам:

– Наколькі я ведаю, няма. Вось лясгас. Раней было моцнае прадпрыемства, а зараз у яго даўгі, запазычанасьці. Таксама ў нас ёсьць замежнае прадпрыемства "Хастэ-Клічаў". Яно таксама ідзе "на дно": хутка будзе банкрутам.

***... Народ на кірмашы вінаваціць у мясцовым заняпадзе найперш сваё начальства: "Ай, папрыязджаюць! Іх адтуль, відаць, павыганялі й сюды папрысылалі. Нібыта сваіх няма. Калі б свайго паставілі, дык можа й толк нейкі быў бы. І ад Харчанкі гэтага няма толку. Ён толькі бегае ды абы-што робіць".***

***Міхал СТЭЛЬМАК***

## ШТО НА ТЫДНІ... У ЧЭРЫКАВЕ І ДРЫБІНЕ



***Працоўныя пяці калектыўных гаспадарак раёну дагэтуль не атрымалі заробкаў за... кастрычнік мінулага году. Часткова заробкі ня выплачаныя нават за верасень.***

Пасьля выбараў прэзыдэнта агульная надзвычай нізкая плацёжаздольнасьць калгасаў асабліва моцна адбілася на асобных гаспадарках. Сярод такіх "адстаючых" – калгасы з узьнёслымі савецкімі назвамі, а менавіта "Сьцяг", "Бальшавік", "Ударнік" ды "імя Ільіча".

***Андрэй КУЗЬМІН***



***Літаральна на парозе новага году завяршылася падпіска на мясцовую раёнку з выразнай назвай "Савецкая вёска".***

Аднак шэрагу кіраўнікоў розных установаў яшчэ давядзецца вярнуцца да гэтай тэмы. Райвыканкам, як ніколі раней, кантраляваў ход падпіскі, скарыстоўваючы простыя загады, распараджэньні й амаль штодзённае заслухоўваньне тых, хто "адстаў ад графіку".

Ня грэбавалі чыноўнікі праглядам сьпісаў падпісчыкаў, адкуль у свае нататнікі пераносілі прозьвішчы, адрасы, месцы працы, тэрміны падпіскі... Аўтарытэт мясцовай раёнкі, як усім вядома, невялікі, а прафэсійны ўзровень – нізкі. Ведае тое й выканкам. Аднак тут клопат, хутчэй за ўсё, нават не аб "правільным" інфармаваньні насельніцтва, але – аб бюджэце.

***С.М.***

# Не, каб зазірнуць у закон...

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**



***Перад надыходам новага году суд адмяніў рашэньне адміністратыўнай камісіі Кастрычніцкага раёна Магілёву, якая аштрафавала студэнта Юрыя Казуціна "за разьвешваньне плякатаў У.Ганчарыка" падчас выбарчай кампаніі.***

Ю.Казуціна разам з рабочым Яўгенам Бабковым напярэдадні выбараў прэзыдэнта затрымалі міліцыянты. Падчас вобыску ў пастарунку ў іх знайшлі плякаты ды ўлёткі ў падтрымку кандыдата Ганчарыка. На гэтай падставе адміністратыўная камісія абвінаваціла іх у парушэньні заканадаўства й пакарала кожнага штрафам у памеры некалькіх мінімальных заробкаў.

Раней суд ужо задаволіў позву Я.Бабкова супраць адміністратыўнай камісіі. Справаздачны ж суд адкладваўся, бо на працэс не зьяўляліся адказны сакратар адміністратыўнай камісіі й начальнік міліцыі Кастрычніцкага раёну. Падчас слуханьня пацьвердзіўся той факт, што Юры Казуцін не расклейваў плякатаў, а нёс іх дамоў ва ўласнай торбе. Цяпер камісія павінна адмяніць сваё папярэдняе рашэньне.

Сябра мясцовага адзяленьня праваабарончага цэнтру "Вясна" Барыс Бухель, які прадстаўляў у судзе незаконна пакаранага студэнта, паведаміў, што ён браў удзел у некалькіх падобных паседжаньнях, і што на ягоную думку прадстаўнікі адміністратыўных камісіяў, на жаль, папросту юрыдычна некампэтэнтныя людзі... Быццам ад гэтага каму лягчэй.

***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***





Фота IREX

***Напярэдадні новага году ня толькі Гомель, але ўся краіна чарговым разам уздрыгнулася ад трагічнай навіны. Самагубствам скончыў жыцьцё 18-гадовы актывіст незарэгістраванага руху супраціву дыктатуры "Зубр" Андрэй Зайцаў. Ягоныя сябры сьведчаць, што адбылося тое ў выніку гэбэшнага перасьледу хлопца і правакацыйнай спробы ягонай незаконнай вярбоўкі. Горад на Сожы з жалем і болем разьвітаўся з сваім сынам, а ў Менску прэсавы сакратар КГБ Котаў заявіў, што хлопец быў "псыхічна нездаровым і меў сутыкненьні з крымінальным законам, што ня мае ніякіх адносінаў да палітыкі". Сябры, паплечнікі і бацькі загінуўшага хлопца патрабуюць афіцыйнага абвержаньня гэтай інфармацыі, паколькі яна не адпавядае праўдзе. З патрабаваньнем расьследаваць спрычыненасьць гомельскага гэбіста, які "вёў" Андрэя Зайцава, да ягонага самазабойства, актывісты "Зубра" днямі пікетавалі будынак КГБ у Менску. Да іх, дарэчы, ніхто з установы ня выйшаў...***









Фотакарэспандэнт "Тыднёвіка" Дзяніс НОВІКАЎ пад новы год сам калядаваў і ўдзельнічаў у сяброўскім сьвяткаваньні. Але ж не забываўся й на рэпарцёрскія абавязкі. Такім чынам нарадзіўся гэты фотарэпартаж пра тое, як дзеці і дарослыя адзначалі Новы год у грамадзкім аб'яднаньні "Кола сяброў"...



# ...У чыноўнікаў яшчэ ёсьць вялікі рэзэрв

***Рашэньнем Крычаўскага райвыканкаму ад 22 сьнежня прыпыненае дзеяньне 7-мі прыватных ліцэнзіяў на права ўнутрыгарадзкіх перавозак.***

Уладальнікі маршрутных таксовак, па вэрсіі чыноўнікаў, неаднаразова парушалі правілы, асноўным зь якіх лічыцца адхіленьне ад маршрута руху. Яшчэ два месяцы таму мясцовыя выканаўчыя ўлады вырашылі рэалізаваць шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на ўпарадкаваньне перавозак пасажыраў. Аднак гэтыя мерапрыемствы ніяк не закранулі тутэйшы аўтобусны парк, праца якога фактычна паралізаваная з-за хранічнага недахопу фінансаваньня. Транспартную праблему ў горадзе намерваліся "выправіць" за кошт прыватных уладальнікаў маршрутных таксовак.

Таксістам "са столі" вызначылі расклад і маршруты руху (некаторыя зь іх былі загадзя стратнымі), а таксама ўвялі шэраг іншых абмежаваньняў на перавозкі. Зразумела, што таксісты езьдзілі так, як зручней пасажырам, а не чыноўнікам. Вось і пачалося сапраўднае паляваньне на парушальнікаў "графікаў і зацьверджанага рэжыму". Любы прадстаўнік фіскальнага органа самастойна выносіў карнае рашэньне. Мала таго: "парушэньні" ніхто афіцыйна не фіксаваў, не складаліся акты праверак і пратаколы, не рабіліся адпаведныя запісы...

У выніку, на падставе загадкавай "даведкі" зь міліцыі, выканкам прыпыніў 7 ліцэнзіяў (на сёньня увогуле такіх ліцэнзіяў выдана каля 60-ці). Пры гэтым ані з даведкай, ані зь пісьмовым рашэньнем выканкаму "зачыненых прыватнікаў" ніхто не азнаёміў.

Пакараныя таксісты накіравалі скаргу ў вышэйстаячыя ўладныя інстанцыі.

***Андрэй КУЗЬМІН***


Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net


Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 1. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 03.01.2002 г. а 17.07